Pierasyłka apłačana „ryčałtam“.

Цана асобнага нумару **15** гр.

№ 20. Вільня, панядзелак 31 сьнежня 1928 г. Год II.

РЭДАКЦЫЯ Й АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Новы Сьвет. Тургельская 22 кв. 3.
ПАДПІСКА: на год . . . . 6 зал
„ паўгоду . . . 3 „
на 3 месяцы . . 1 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

# НАРОД

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЕ СЯЛЯНСКАЕ ПАРТЫІ.

ЦАНА АБЕСТАК:
Перад тэкстам . . . . 20 гр.
Сярод тэксту . . . . . 25 гр.
і па тэксьце. . . . 15 гр.
за радок дробнага друку.

Выходзе 4 разы у месяц.

## Рэдакцыя „НАРОДУ“ жадае сваім чытаром шчасьлівага Новага Году.

## У мінулым годзе.

Мінулы 1928 год быў адным з найцяжшых у жыцьцю Беларускага Народу ў Заходняй Беларусі.

Яшчэ раней—у 1925—26 гадох—беларуская інтэлігенцыя і народныя масы, пакрыўджаныя благімі адносінамі польскага ўраду, кінуліся усваёй большасьці гурмам у ўсходні маскоўска-бальшавіцкі бок. Праўда, ня ўсе гэты кірунак добра разумелі, у вялізарнай большасьці Беларусаў гэтым выражалася толькі ўтрата веры ў якое-колечы балей-меней нормальнае жыцьцё пад Польшчаю. Але вялікі кірунак з чужой орыентацыяй і ідэёлёгічнай залежнасьцяй стварыўся. Маскоўскія бальшавікі адразу захацелі з гэтага скарыстаць, думаючы ськіваваць беларускае жыцьцё ў маскоўскае рэчышча ды абярнуць беларускі народ у сваіх нявольнікаў. Тады значная часьць Беларусаў ахамянулася й адхінулася ад Маскоўшчыны, яны зразумелі, што, уцякаючы ад аднаго, нельга кідацца ў абыймы другога праціўніка, што вызваленьне і шчасьлівую будучыню беларускі народ здабудзе толькі пры сваёй незалежнасьці арганізацыйнай і ідэёлёгічнай.

Абаронынікам беларускага самастойнага жыцьця ўсход абвясьціў вайну на жыцьцё й сьмерць. Але беларускі рух аказаўся даволі дужым, каб устоіць проці маскоўска-інтэрнацыянальнай навалы, а шмат тых, што заблыталіся ў ейныя сеткі, патрапляла аслабаніцца зь іх.

Гэтая барацьба з усходам пры адначаснай барацьбе з палякамі стоіла беларускаму народу вялікіх жэртваў на выбарах у Сойм і Сэнат і па выбарах, але жэртвы гэныя ўратавалі беларускі рух ад паняволеньня яго чужынікамі. Вызваленьне ад чужых уплываў беларускага жыцьця ў значнай меры дапята. Дальшая праца мае ў блізкой будучыні зусім гэтае жыцьцё зрабіць самастойным. У 1929 г. галоўнай задачай беларускай дзейнасьці павінна быць гуртаваньне беларускіх нацыянальных сіл.

Побач з такім гуртаваннем павінна ісьці ўсестароньняе тварэньне беларускага нацыянальнага жыцьця, грамадзкай дзейнасьці і нацыянальнай культуры ў усіх яе галінах.

Павінна быць зьвернена такжа асаблівая ўваго на вызваленьне з-пад чужой няволі беларускай праваслаўнай царквы і каталіцкага касьцёлу.

## НАВІНЫ.

— *Агульная Зборка* Беларускага *Дабрадзейнага Т-ва* ў Вільні была 19 сьнежня ў памяшчэньню Віленскай Беларускай Гімназыі. Старое праўленьне ў складзе—Пяткевіч, Савіцкі й Марцінчык—ня могучы даць справаздачы, зусім на зборку не зьявілася. Зборка сконстатавала, што старое праўленьне нічагусенькі не рабіла. Новае праўленьне абрана ў складзе: А. Сакалова-Леканціха (старшыня), Я. Шнаркевіч, дыр. Міхалевіч, сьвяшч. А. Коўш, інж. Трэпка, В. Грышкевіч і А. Крук. У Рэвізыйнаю Комісыю абраны: Р. Астроўскі, В. Сіняўскі, Лукашэвіч, Галяк і М. Станкевічыха (двое апошніх—кандыдаты).

Агульная Зборка пастанавіла, каб усе сябры, што не заплацілі дагэтуль сяброўскай складкі, заплацілі чэ да 15 студня 1929 г. Хто не заплаце, той будзе вылучаны з Т-ва.

Агульная Зборка адбылася пад старшынством грам. А. Луцкевіча.

— *Высяленьне І. Савіцкага.* „Kurjer Wileński“ (N 292) наказуе, што надовечы з граніцаў Рэчыпаспалітай Польскай выдалены І. Савіцкі, б. сябра Галоўнай Управы Т-ва Беларускай Школы. І. Савіцкага эдвезьлі да граніцы. Паводле таго-ж „Kur. Wil.“ высяленьне сталася за ўчасьце І. Савіцкага ў нелегальнай зборцы дэлегатаў Т-ва Беларускае Школы.

— *Рэзультаты провакацыі інтэрнацыяналістых. 18-ёх вучнеў звольнена зь Беларускай Гімназыі ў Вільні.* Частыя авантуры кучкі вучнеў у Віленскай Беларускай Гімназыі, падвучаных інтэрнацыяналістымі, зьвярнулі на сябе ўвагу школьнай улады; асабліва пашкодзіла вучням і Гімназыі дэманстрацыйнае ўчасьце часткі вучнеў у нелегальнай зборцы дэлегатаў Т-ва Беларускае Школы 9-га сьнежня. Рэзультатам гэтага было тое, што віленскі школьны куратар звольніў зь Беларускай Гімназыі ў Вільні ажно асьмінаццацёх вучнеў, пераважна зь сёмай клясы. Калі звольненыя вучні дасталі аб сваім звальненьню паведамленьне ад куратара, яны імкнуліся арганізаваць протэстанцыйныя вечы; з гэтае прычыны паліцыя іх арыштавала і назаўтрае яны пад канвоям паліцыі былі адпраўлены да сваіх бацькоў. Аднак некалькі звольненых вучнеў пакінены ў турме ў Вільні.

Факты звальненьня 18-ёх вучнеў, каторыя за гада паўтара або й за год былі-б ужо студэнтамі — гэта вялікая шкода ў беларускім грамадзкім жыцьцю. Віна за гэтаю шкоду ня гэтулькі самых вучнеў, нявыраслых і недаразьвітых, колькі віленскіх інтэрнацыяналістых зь іхнімі „Працамі“; яны падвучалі на авантуры вучнеў і іх тут галоўная віна.

— *Арцыбіскуп Ялбжыкоўскі забараніў каталікам належыць да* Б. *Хр. Дэмократыі.* Аказуецца, што віленскі арц. Ялбжыкоўскі ня толькі ксяндзом забараніў належыць да Беларускай Хрысьцянскай Дэмократыі, але і ўсім католікам; забараніў ён так сама каталікам чытаць „Bieł. Krynicu“. Адначасна Ялбжыкоўскі загадаў прачытаць ягоны забарон пробаршчам па ўсіх касьцёлах. Запраўды гэты забарон ёсьць чымсь дагэтуль нячуваным і ськіваваны бяссумлеву проці ўсяго беларускага народу. Чарнасоценны арцыбіскуп абвясьціў Беларусом вайну на жыцьцё й сьмерць. З прычыны гэтага забарону Беларуская Хадэцыя выдала адозву, заклікаючы да супакою й вытрываласьці; адначасна Беларуская Хадэцыя зьвярнулася із скаргай да папежа ў Рым.

— *Да чаго даводзе чарнасоценная палітыка арц. Ялбжыкоўскага?* Віленскі каталіцкі арцыбіскуп Ялбжыкоўскі ўсё робе дзеля нацыянальнага зьністажэньня Беларусаў-каталікоў. Усё ў яго ёсьць толькі спосабам дзеля палячэньня. Паміж іншым Ялбжыкоўскі не дазваляе ксяндзом хрысьціць дзеці ў беларускай мове. З гэтае прычыны некаторыя Беларусы-каталікі, ня хочучы каб іхняя вера і іхняе дзяцё служыла спосабам да палячэньня, адкладаюць хрэст сваіх дзяцей. Калі арц. Ялбжыкоўскі перастане зьдзекавацца над Беларусамі?!

— *Далоў із старшынства.* Ад закладзінаў Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры ў 1926 г. старшынёй ягоным быў Адам Більдзюкевіч. Гэты „вялікі“, няпрыступны „пан“ з радашкаўскіх мяшчан зусім ня здольны да арганізацыйнай працы, а сваёй хваравітай падазронасьцяй, драбязьлівай дэспотычнасьцяй ды праводжаньням сваіх асабістых мэтаў ён разьбіваў кожнаю работу. На шкоднасьць Більдзюкевіча даўно ўжо зьвярнулі ўвагу бліжшыя супрацаўнікі Інстытуту, але ён аставаўся на сваім месцу, бо падлыгаваў і меў плечы ў „вапякуна“ Інстытутам, чалавека болей учуцьцёвага, чымся разумнага. Напасьледак „пан“ Більдзюкевіч давёў Інстытут ледзве да сьмерці, прыйшлося навет уступіць пад лёто інвалідам адзінаю красу Інстытуту — памяшчэньне ля Астрабрамскай вул., а самым перанесьціся на Завальнаю 7. Тут ужо й „плечы“ здаліся і А. Більдз. прымушаны быў адмовіцца ад старшынства. Заступае старшыню цяпер у Інстытуце віцэ-старшыня.

— *Беларускі дэклямататар.* Нядаўна выйшла кніжка пад такім назовам апрацаваная С. С. Як сам назоў паказуе, у кніжцы забраныя вершы дзеля дэклямаваньня. Цана 1 зал.

— *Тарас на Парнасе.* Выйшла гэтае кніжкі новае выданьне, цана 25 гр.

## ПРОТЭСТ

**Беларускага Каталіцкага Студэнства Віленскага Ўнівэрсытэту проці Я. Э. Арцыбіскупа Ялбжыкоўскага, Мітрапаліты Віленскага.**

Дня 10 сьнежня 1928 г. Я. Э. Арцыбіскуп Мітрапаліт Віленскі кс. Ялбжыкоўскі выдаў загад да верных каталікоў і духаўнікоў, забараняючы ім належаць да Беларускае Хрысьцянскае Дэмократыі ды выпісаваць, чытаць і пашыраць ейны ворган „Biełaruskaju Krynicu“.

Прычынай да гэтага кроку мелася быць недаведзеная ані Я. Э. Арцыбіскупам, ані кім іншым рэлігійная індыфэрэнтнасьць Б. Х. Д. і „В. Кг.“ ды іхняя падаўкасьць уплывам бальшавізму. Гэткі танны спосаб абвінавачаньня ня можа здаволіць нікога. І пагатове не здаволіў ён беларускаю каталіцкаю інтэлігенцыю.

І дзеля таго беларускае каталіцкае студэнства бяз розьніцы палітычных перакананьняў на надзвычайным сваім сходзе, склікaным ініцыятыўнай групай дня 15 сьнежня сёл., разгледзіўшы ўсю справу пастанавіла падаць да публічнага ведама ніжэйсказанае:

Беларускае каталіцкае студэнства з жалям глыбокім мусіць сьцьвердзіць, што рафінаваная цкаваньне ўсяго беларускага польскай прэсаю чарнасоценнага кірунку знайшла водгук і ў найвышшага ў нас сядня Дастойніка каталіцтва—Я. Э. Арцыбіскупа Мітрапаліта Віленскага.

Справа цэлая тым сумнейшая, што ўжыты спосаб хаданьня зь Беларусамі каталікамі разьлічаны толькі на адну людзкую несьвядомасьць і цямноту. Ня служа гэта да сьці нікому, тым балей афіцыяльным прадстаўніком каталіцкага хрысьцянства. Беларускім каталіком нельга бараніцца датуль, пакуль не падасца ім абвінавачаньне. На паданы ж закід індыфэрэнтнасьці рэлігійнай і бальшавізму ў імя праўды брэба сказаць пакуль-што гэтулькі: для Б. Х. Д. на беларускіх прасторах індыфэрэнтны ня справы рэлігіі, але польшчыны, калі апошняя хоча стацца ў нас сынонімам каталіцтва.

Што-ж датычыць бальшавізму, дык толькі хранічная безгаловасьць польскага шовінізму здольна на гэткія проці Б. Х. Д. выпады.

Усё сказанае прыймаючы пад увагу, а таксама знаючы да ўсіх дробязяў стан справы на мясцох, мы Беларусы каталікі, студэнты Віленскага Унівэрсытэту, бяз розьніцы палітычных перакананьняў закладаем перад цэлым цывілізаваным сьветам свой рашучы пратэст проці нясумленнага выкарыставаньня несьвядомасьці беларускага насяленьня. Усю-ж адказнасьць за насьледкі вышэй успомненага неразважнага кроку Я. Э. Мітрапаліты кс. Ялбжыкоўскага ўскладаем на яго самога.

Пры канцы зазначыць мусім, што не Б. Х. Д., але ўсе тыя, каму Б. Х. Д. ёсьць сольлю ў воку, хто Б. Х. Д. разьбівае, той разьлівае паміж беларускімі каталікамі духовую атруту рэлігійнага індыфэрэнтызму й бальшавізму.

За Агульны Сход Беларусаў Каталікоў Студэнтаў Віленскага Унівэрсытэту—

Прэзыдыюм Сходу:

Старшыня (—) *Тодар Куніцкі*,
студэнт мэдыцыны.

Сэкрэтар (—) *Станіслаў Станкевіч*,
студэнт гуманістыкі.

Сябра Прэзыдыюму (—) *Эдвард Крэчка*,
студэнт права.

Вільня, дня 15 сьнежня 1928 г.

Увага: Протэст гэты перасылаецца вышшым духоўным каталіцкім уладам.

# ЛІСТЫ.

## Інспэктар робе розныя перашкоды проці беларускае школы ў Панізьзю.

Пасьля даўгіх стараньнеў напасьледак Беларускі Гаспадарскі Зьвяз дастаў концэсыю на беларускаю прыватнаю школу ў в. Панізьзе Валожынскага пав. Але школьны інспэктар Валожынскага пав., Ставовы, адмовіўся зацьвердзіць вучыцеля Міхала Шакуна, аб другім-жа вучыцелю, Міхалу Азерскім, яшчэ цяпер паслаў паперу даведацца ў той інспэктарат, дзе нядаўна вучыў М. Азерскі. Ужо каля паўгоду, як Зьвяз падаў кандыдатаў, а інспэктар дагэтуль не пасьпеў паслаць паперы. Ведама, робіць гэтак, каб адцягнуць справу. З другога боку, інспэктар, каб удзержаць дзеці ў суседняй (у Валожыне) школе польскай, пачаў ім раздаваць дарма польскія падручнікі. Той-жа інспэктар стараецца заняць пад польскаю ўрадовую школу памяшчэньне ў Васіля Балашкі ў Панізьзю, каторага доўга ня прыймаў дохтар пад школу беларускаю, лічачы яго неадпаведным. Вось як з намі нягодна ходаюцца!

*Валожынец.*

*Прачытаўшы, не зьністажай, але дай прачытаць другому.*

# Як карміць каровы.

Агульна ведама, што важнай прычынай малой малочнасьці нашых кароў узімку ёсьць благі іх дагляд: нястача падсьцілкі, сьцюжа ў хляве, а наўперад благі корм і мала яго. Навет тая карова, што паводле свае прыроды давала-б шмат малака, пры слабым корме дасьць яго мала, бо ня будзе мець патрэбнай колькасьці складнікоў да вытварэньня малака. Асабліва сёлета, калі ў шмат якіх ваколіцах краю збор сена, канюшыны, сэрадэлі ня ўдаўся і забралі іх меней за ранейшыя гады, асабліва важнай справай ёсьць прыгатова адпаведнага корму ўзімку жывёле.

З навукі аб кармленьню жывёлы ведама, што малочная карова патрабуе на свае жыцьцёвыя патрэбы й выработаньне малака ведамай колькасьці бялка, каторы ёсьць у рознай колькасьці ў васобных кормах. Колькасьць бялка, каторы карова мае дастаць, залежыць ад яе жывой вагі ды ад малочнасьці. Найбалей бялка маюць так званыя концэнтраваныя кормы, меней сена, канюшына й сэрадэля, зусім мала салома й асыпаніны.

Дзеля малой колькасьці сена сёлета, тым балей маем імкнуцца мець даволі корму концэнтраванага.

Што концэнтраваны корм аплачуецца, відаць з прыкладу, каторы прыводзім тутака ніжэй.

Кожны згодзіцца, што карова, каторай асновай кармленьня ёсьць сечка з малой прымешкай сена альбо канюшыны, зьесьць гэт'кага корму каля 16 кг. (пуд), але ня дасьць балей малака як 3—4 літры ў дзень, худзеючы адначасна.

Вылічым які будзе кошт такога „таннага кармленьня“ і які ягоны канчальны рэзультат?

Выдаткі:

16 кг. сечкі па 7 гр. — 1 зал. 12 гр.
2 кг. сена „ 12 „ — 24 гр.

Разам 1 зал. 36 гр.

Даход:

4 літры малака па 30 гр.—1 зал. 20 гр.

Зь ліку выходзе, што страта ўдзень будзе каля 16 гр. або за 30 дзён каля 5 зал. Апрача таго, пры вышменаваным спосабе кармленьня, уся салома пойдзе на пошар, так што жывёла будзе стаяць на мокрым, што, як мы зацемілі, блага адбіваецца на малочнасьці. Гной будзе саломісты і будзе ён вельмі малой вартасьці.

Калі-б тэй самой карове, могучай даць каля 10 літраў малака ўдзень, даць ніжпададзенаю колькасьць корму, што вылічана на гэтаю колькасьць малака й пакрыцьцё жыцьцёвых патрэбаў жывёліны, гаспадар замест страты будзе мець даход.

Выдатак:

3 кг. сена па 12 гр. — 36 гр.
4 „ саломы „ 7 „ — 28 гр.
1 „ лянной макухі „ 50 „ — 50 гр.
8 „ бульбы „ 10 „ — 80 гр.
1 „ вотрубаў „ 30 „ — 30 гр.

Разам 2 зал. 24 гр.

Даход:

10 літраў малака ўдзень па 30 гр.—3 зал.

Як відаць з вылічэньня, даходу ўдзень будзе каля 80 гр. або ў месяц каля 25 зал. Апрача даходу пры вышменаваным кармленьню, у гаспадарцы стане саломы, гной будзе лепшы.

Цэны сёлета ў верасьні за 100 кг. асобных концэнтраваных кормаў былі гэткія:

Макуха лянная 53 зл., мае ў 1 кг. 272 гр. бялка
„ сонечнік. 51 „ „ „ 324 „ „
Мука зоевая 53 „ „ „ 460 „ „
Вотрубы 29 „ „ „ 113 „ „

Ніжэй пададзеная таблічка паказуе колькасьці асобных кормаў, патрэбных на тое, каб карова выработала 1 літар малака, і цану іх.

| КОРМ | Колькі трэба грамаў на 1 літр малака | Цана ў грош. | Бульбы грамаў | Цана | Разам кошт. 1 літра малака ў грошох |
|---|---|---|---|---|---|
| Лянная мак. | 170 | 9,0 | 600 | 6 | 15,0 |
| Сонечнік. „ | 140 | 7,2 | 750 | $7\frac{1}{2}$ | 14,7 |
| Мука зоевая | 100 | 5,3 | 900 | 9 | 14,3 |
| Вотрубы | 350 | 10,2 | 300 | 3 | 13,2 |

Бульбу можна замяніць падвойнай колькасьцяй буракоў. Трэба зацеміць, што з паміж вышменаваных концэнтраваных кормаў, апрача вотрубаў, макуха найдарожшая. З табліцы выходзе, што цяперака найтаньней абходзіцца кармленьне вотрубамі, але трэба спадзявацца, што нізкая цана на іх ня ўдзержыцца. Затое дзеля ўвядзеньня мыта на вывожаную з Польшчы макуху, цана яе напэўна зьменшыцца і тады землябробам адчыніцца дарога да вялікай карысьці ад малочных кароваў пры належным іх кармленьню.

(„Tyg. Rol.“).

# З ПОЛЬШЧЫ.

## Мае быць паднята плата за правоз тавараў.

Міністэрства дарогаў разглядае цяпер плату за перавоз тавару па зялезнай дарозе, а такжа за правоз багажа. У сувязі з гэтым прадбачыцца павышэнь-

Ул. Ст. РЭЙМОНТ.

# АБАРОНА ЗЯМЛІ

Друкуем прысланы нам пераклад адрыўкаў із твору Рэймонтавага „Chłopi“, каб пазнаёміць нашых чытароў з гэтымі творамі (Рэд.).

Каторагась дня разлалося па хатах:

— Немцы ў карчме папасуюцца!

— На Падлесьсе*) напэўна едуць — дагадаўся хтось.

— Няхай едуць із Богам!.. што вам да іх за дзела?—супакояваў другі.

Але якаясь несупакойная трывожная цікавасьць захапіла людзёў. Із садоў крычэлі гэтаю навіну, ля платоў станавіліся гаманіць аб ёй, а іншыя ў карчму пабеглі на ўзьведы.

І праўду казалі, пяць каламашак стаяла ля карчмы і ўсе на зялезных восех, на жоўта й сіне маляваныя, палатнянымі будамі накрытыя, з-пад каторых відаць былі жанкі і розныя гаспадарскія прылады, а ў карчме зь дзесяцёх Немцаў выпівала.

А здаравецкія былі мужчыны, шыракаплечыя й барадатыя, апрануўшыся ў гранатовыя вопраткі, із срыбнымі ланцугамі на сытых брухах, а морды, дык ажно блішчэлі ад добрае яды. Гергеталі штось із Жыдам.

Мужыкі цэлай кучай пасталі побач, крычачы гарэлкі, гледзячы й прыслухаючыся ўважне, але цяжка было зразумець, хоць-бы адно слова. Адно Мацей, што із Жыдам патрапіў галгатаць, так штось да іх загаманіў, што ажно карчмар зьдзівіўся. Немцы адно пераміргнуліся паміж сабою і не адказалі, а потым і Рыгор, войтаў брат, сказаў ім якесь нямецкае слова. Плячыма адвярнуліся да мужыкоў, пагукуючы паміж собку, бы тыя сьвіньне ля карыта рохкаючы.

— Толькі смаліць па гэтых сьвіных мордах!— сказаў зазлаваўшыся Мацей.

— Дручком-бы ім бакі параўняць, дык як га прагукалі-б.

— Схаплю ўзагрудкі гэтага з краю, калі павале мяне, дык вы жарце.

Сунялі яго, бо й Немцы, быццам пачуўшы папастрашаньні, узялі барылку зь півам і борзда выйшлі з карчмы.

— Гэй, нямчугі, ня так сьпяшайцеся, нагавіцы патраціце!

— Сьвінюкі!—крычэлі за імі дзяцюкі.

Але зараз па іх ад'езьдзе Жыд прызнаўся парабком, што Немцы ўжо траха купілі Падлесьсе, што ўжо паехалі мераці колёнію, што цэлых пятнаццаць сем'еў асядзе на хваліварку.

— Мы тутака душымся на загонах, а Немцы будуць на валоках раскашавацца.

— Дык купі сам! Паварушы мазгамі, калі такі разумнік!.. — выкрыкаваў на Рыгора Сталюк Плошка.

— Хварэць іх бок! — клёў Мацей, стукаючы кулаком па стале. — Як засядуць на Падлесьсю, дык цяжка будзе і ў Ліпцах вытрываць — цьвердзіў ён, бо бываў у сьвеце і Немцаў добра знаў.

Ня верылі яму адразу, але, нягледзячы на гэта, уся вёска была ў клопаце; пачалі думаць: што б із таковага суседзтва магло-б стаці благога Ліпцам?

А тут што дня пастухі й праходзячыя наказвалі, як на Падлесьсю зямлю ўжо мераюць, каменьне звозяць і студню капаюць.

Не адзін із цікавасьці пабег за млын да Волі, каб собскімі вачыма пераканаціся, ці праўду казалі.

Але, як запраўды ёсьць, цяжка было даведацца.

Прыціскалі каваля, бо зь Немцамі ўжо зьнюхаўся і коні ім каваў, але той выкручаваўся і ні тое, ні сёе не сказаў.

Толькі Рыгор, войтаў брат, пайшоў на ўзьведы і праўду выясьніў.

А было гэтак: пан быў вінен аднаму Немцу пятнаццаць тысячаў рублёў. Аддаць гатоўкі ня меў, а той яму за доўг хацеў забраць Падлесьсе і даплаціць яшчэ гатовымі грашмі. Пан быццам згаджаў-

*) Назоў аднаго двара ў Польшчы.

